# На пройдзеным шляху

Часта з боку нашых сцэптыкау і пэсымістых прыходзіцца чуць няправільны й неабаснаваны закід, што беларуская эміграцыя у Нямеччыне на працягу цэлых шасьці год ад заканчэньня вайны нічога паважнага не зрабіла ані у галіне палітычнай ані нацыянальна-грамадзкай, што яна гэты увесь час змарнавала толькі на нутраныя сваркі й на міжсобнае змаганьне за уладу й становішчы у грамадзянстве. Паколькі падобныя пагляды падзяляюць многія нашыя суродзічы, не без карысьці будзе тады кінуць вокам на пройдзены шлях за апошніх шэсьць год у нашым выгнанскім жыцьці у Нямеччыне й хоць агульна падсумаваць прынамсі найважнейшыя нашыя здабыткі у розных галінах жыцьця й дзейнасьці, якія нам, ня гледзячы на нязвычайныя труднасьці й перашкоды, дасягнуць удалося.

## 1. У ГАЛІНЕ НУТРАНАЕ Й ВОНКАВАЕ ПАЛІТЫКІ

Беларуская палітычная дзейнасьць у Нямеччыне спачатку была праводжаная Замежным Сэктарам Беларускага Нацыянальнага Цэнтру, які быу аднаулены й рэарганізаваны на зьезьдзе беларускага палітычнага актыву 15 жніленя 1945 г. у Рэгензбургу. Гэтая нацыянальна-палітычная арганізацыя павяла даволі інтэнсыуную працу у кірунку кансалідацыі беларускага грамадзянства й актывізацыі нацыянальна-палітычнае дзейнасьці у ягоных радох. Паколькі Беларускі Нацыянальны Цэнтр быу арганізацыяй міжпартыйнай і абыймау розныя палітычныя кірункі й угрупаваньні, адразу паустала патрэба апрацаваньня супольнай палітычнай плятформы, што й было зроблена у прынятай 15 лістапада 1946 г. Дэклярацыі БНЦ і у розных адозвах, зваротах ды артыкулах, друкаваных пераважна на балонах часапісу «Рух». БНЦ з самага пачатку праявіу даволі актыуную дзейнасьць і арганізацыйную пружыністасьць. Ад яго амаль заусёды выходзіла ініцыятыва усякіх грамадзкіх і палітычных акцыяу, праводжаных сярод беларускага грамадзянства, ён-жа пераважна брау на сябе кірауніцтва у іх правядзеньні. Такім чынам гэтая арганізацыя ня толькі трымала руку на пульсе нашага грамадзкага й палітычнага жыцьця у Нямеччыне, але у ня меншай меры яго арганізавала й ім кіравала.

Апрача дзейнасьці нутранай, БНЦ хутка пасьля свайго аднауленьня навязау кантакт з палітычнымі прадстауніцтвамі некаторых паняволеных бальшавізмам народау, як і з палітынымі арганізацыямі міжнацыянальнымі, бяручы заусёды актыуны удзел у іхнай працы.

У канцы 1947 г. актывізуюцца й рэарганізуюцца нашыя гаспадарствауския органы — Рада і Урад Беларускай Народнай Рэспублікі, якія у першую чаргу пераймаюць кірауніцтва нашай палітычнай дзейнасьцю, як і арганізуюць акцыю дыпляматычную. Як у вадным, гэтак і другім кірунку Урад БНР дасягнуу не малых посьпехау. Асаблівай ягонай заслугай было рэпрэзэнтаваньне беларускіх незалежніцкіх ідэалау перад заходнімі гаспадарстваускімі дзейнікамі, як і навязаньне адпаведных кантактау і супрацоуніцтва з эгзыльнымі урадамі паняволеных бальшавізмам народау.

Як палітычная, гэтак і грамадзкая дзейнасьць у Нямеччыне была моцна паралiжаваная зарубежніцкай акцыяй, якая праявілася ужо у 1947 г. Некаторым, што стаялі воддаль беларускага руху, здавалася, што падзел беларускага грамадзянства на незалежнікау-бэнэрауцау і зарубежнікау — гэта чыста нутранае беларускае зьявішча, а таму самі-ж беларусы, як аднаго, гэтак і другога кірунку, паносяць за яго віну. Тымчасам-жа зарубежніцтва было ня чым іншым, як аднэй і з формау расейскае дывэрсыі, якая на працягу усяе гісторыі беларускага нацыянальна-вызвольнага руху дзеіла на нашую шкоду, будучы інсьпіраванай расейскімі палітычнымі дзейнікамі. Хаця змаганьне з зарубежніцкай дывэрсыяй праглынула шмат нашых нацыянальных сілау і энэргіі, якія маглі-б быць выкарыстаны для пазытыуных творчых мэтау, было яно аднак неабходным. Яно скансалідавала усё нашае нацыянальна думаючае грамадзянства вакол незалежніцкіх ідэалау беларускага народу й адкрыла вочы усім тым беларусам, што спачатку прысталі да зарубежнікау, наіуна паверыушы у нацыянальную чыстасьць гэтага кірунку. У выніку гэтага змаганьня зарубежнітва было поунасьцю пераможанае, бо грамадзянства аб'ектыуна пабачыла ягоныя антыбеларускія мэты.

## 2. НА НІВЕ ДЗЕЙНАСЬЦІ ГРАМАДЗКАЙ

Агульнай грамадзкай дзейнасьцю кіравалі, як ведама, нашыя Зонныя Беларускія Камітэты, пазьней-жа зьверхняе кірауніцтва пераняу цэнтральны Беларускі Нацыянальны Камітэт у Нямеччыне. Спачатку гэтая дзейнасьць бадай выключна палягала на выдзяленьню беларусау з чужанацыянальных лягерау і арганізаваньню лягерау беларускіх. Гэтая важная й адказная праца напатыкалася даужэйшы час на вялізарныя труднасьці галоуна з тае прычыны, што ані амэрыканскія, ангельскія й францускія вайсковыя акупацыйныя улады ані УНРРА не вызнавалі тады беларусау за апрычоную нацыю, а абазначалі іх паводля іхнае гаспадарствауское прыналежнасьці да 1939 г.

Ня гледзячы на гэта, усё-ж такі удалося зарганізаваць некалькі беларускіх лягерау, а у лягерах чужанацыянальных, дзе пражывала большая колькасьць беларусау, паусталі беларускія зарганізаваныя нацыянальныя групы, кіраваныя мясцовымі беларускімі камітэтамі.

Апрача гэтага, Беларускі Нацыянальны Камітэт, як і Камітэты Зонныя, увесь час вёу інтэнсыуную акцыю перад унраускімі й вайсковымі уладамі у вабароне правоу беларускіх перамяшчэнцау. Гэтая акцыя укаранавалася пасьпехамі, бо у канцы 1947 г. унраускія й вайсковыя акупацыйныя улады вызналі беларусау за апрычоную нацыю, прызнаючы ім выплываючыя з гэтага правы, а у канцы 1949 г. IРО вызнала Беларускі Нацыянальны Камітэт за афіцыяльнае прадстауніцтва беларускае эміграцыі у Нямеччыне.

Наагул трэба адцеміць, што у вагульным працэсе беларускай нацыянальна-грамадзкай, арганізацыйнай і культурна-асьветнай дзейнасьці беларускія камітэты адыгралі вялікую ролю.

На гэтым месцы трэба коратка успомніць пра нашую прэсу й выдавецтва. З тае прычыны, што да канца 1947 г. вайсковыя акупацыйныя й унраускія улады не вызнавалі беларусау за апрычоную нацыю, не магла да гэтага часу паявіцца беларуская друкаваная прэса, бо нельга было атрымаць на яе абавязваючых ліцэнзыяу. Дзеля гэтага у меру канечнасьці прыходзілася абмяжоувацца толькі ратататарнымі выданьнямі. Толькі у канцы 1947 г. удалося атрымаць ліцэнзыю на выдаваньне тыднёвіка «Бацькаушчына» і літаратурнага месячніка «Сакавік». Трэба аднак прызнаць, што нашая прэса у Нямеччыне усё-ж такі была даволі сьціплай прапарцыянальна да агульнай як палітычнай гэтак і грамадзкай дзейнасьці. Такое зьявішча можна вытлумачыць адносна невялікай колькасьцю беларусау у Нямеччыне і яшчэ меншай колькасьцю беларусау зарганізаваных у сваіх нацыянальных лягерах.

Калі ходзіць пра выдавецтва наагул, то яно з выжэй успомненых прычынау разьвівалася слаба, хаця удалося за гэты час выдаць некалькі кніжак, школьных падручнікау ды зборнікау мастацкае літаратуры.

Асобна трэба успомніць пра працу нашае моладзі, згуртаваную у арганізацыі беларускіх скаутау і скаутак. Беларускія скауты асабліва у такіх пунктах, як Рэгензбург, Міхэльсдорф, Віндзішбэргердорф, Остэргофэн, Мітэнвальд, Ватэнштэт і інш былі добра зарганізаваныя й правялі вялікую узгадавауччую і нацыянальную працу сярод беларускае моладзі.

Зь дзейнасьці іншых арганізацыяу на асаблівую заслугоувае увагу Задзіночаньне Беларускіх Вэтэранау і Задзіночаньне Беларускіх Жанчын. Абедзьве гэтыя арганізацыі прарабілі кажная па сваей лініі не малую работу як сярод сваіх сяброу, гэтак і сярод усяе нашае эміграцыйнае масы у Нямеччыне. Задзіночаньне Беларускіх Жанчын, асабліва у Остэргофэне, прыгожа адзначылася у акцыі матарыяльнае дапамогі для хворых і вязьняу.

## 3. ФРОНТ КУЛЬТУРНА-АСЬВЕТНЫ Й РЭЛІГІЙНЫ

Культурна-асьветная дзейнасьць магла разьвівацца толькі там, дзе беларусы знаходзіліся у собскіх нацыянальных лягерах ці наагул тварылі большыя зарганізаваныя групы. У такіх асяродзьдзях часта ладзіліся даклады й рэфэраты на гістарычныя, літаратурныя й агульныя тэмы, сьвяткаваньні-акадэміі з нагоды нацыянальных сьвятау, літаратурныя вечары, выстаукі беларускага народнага мастацтва й г. п. На асаблівую увагу заслугоувалі тэатральныя прадстауленьні й канцэрты, ладжаныя аматарскімі трупамі ды хорамі, якія існавалі пры кажным беларускім лягеры.

Асобна трэба выдзяліць прафэсыянальную беларускую тэатральную трупу «Жыве Беларусь». Гэтая трупа аб'ехала некалькі разоу усе тры зоны заходняй Нямеччыны, дзе у беларускіх і чужанацыянальных лягерах сваімі канцэртамі, пастауленымі на высокім мастацкім узроуні, годна папулярызавала беларускае тэатральнае й песеннае мастацтва перад многанацыянальнымі масамі ДП, як і прадстаунікамі акупацыйных і унраускіх уладау ды нямецкім грамадзянствам. У вагульным балянсе беларускае тэатральна-мастацкае дзейнасьці трупа «Жыве Беларусь» адыграла вялікую ролю. Нельга абыйсьці моучкі аматарскай, але на адпаведнай артыстычнай вышыні пастауленай, канцэртнай трупы беларускіх студэнтау у Марбургу, якая з сваімі умела зарганізаванымі канцэртамі наведала усе большыя беларускія асяродзьдзі у Нямеччыне.

Так як беларуская культурная праца магла праводзіцца толькі у большых зарганізаваных беларускіх асяродзьдзях, тое самае адносіцца й да беларускага школьніцтва. Усюды там, дзе знаходзілася большая група беларусау, працавалі беларускія пачатковыя школы. У большых беларускіх лягерах былі й свае сярэднія школы — гімназыі, як у Рэгензбургу, Міхэльсдорфе, Віндзішбэргердорфе, Остэргофэне й Ватэнштэце.

Важныя падзеі адбыліся за гэты час у галіне беларускага праваслаунага царкоунага жыцьця. Калі япіскапы Беларускай Праваслаунай Аутакефальнай Царквы, па нацыянальнасьці расейцы або зрусыфікаваныя беларусы, самачынна прылучыліся у 1946 г. да Расейскай Праваслаунай Зарубежнай Царквы, БПАЦ асталася без сваей герархіі, а беларускія праваслауныя вернікі без рэлігійнае апекі. Такі стан быу нязвычайна шкодны ня толькі з гледзішча на рэлігійныя патрэбы беларускага грамадзянства, але й з гледзішча нацыянальнага. Таму на просьбу беларускіх праваслауных вернікау япіскап Украінскай Праваслаунай Аутакефальнай Царквы Сяргей у чэрвені 1948 г. узяу пад сваю апеку асірацелую БАПЦ, а у сьнежані 1949 г., пасьля высьвячэньня на япіскапа архімандрыта Васіля, паустау Сьвяшчэнны Сынод Япіскапау БАПЦ, які й абвесьціу адраджэньне БАПЦ. Пасьля гэтага ажыло нанова беларускае праваслаунае рэлігійнае жыцьцё, і ужо сяньня амаль ува усіх краінах пасяленьня беларусау існуюць прыходы БАПЦ.

Факт аднауленьня БАПЦ меу нязвычайна вялікае нацыянальнае значэньне, бо дзякуючы гэтаму было выбіта войстрае аружжа з рук расейцау, якія пры помачы сваей царквы й свайго духавенства, намагаліся, як і за часоу царызму, русыфікаваць беларусау.

* * *

Такі у вагульным і пэуне-ж няпоуным нарысе пройдзены шлях дзейнасьці беларускае эміграцыі у Нямеччыне. Пэуне-ж, было у ей многа заганау і недахопау, залежных і незалежных ад нас. Але калі узяць пад увагу даволі малую колькасьць беларускае эміграцыі у Нямеччыне у параунаньні з эміграцыямі іншых нацыянальнасьцяу і тыя нязвычайна вялікія цяжкасьці й перашкоды, якія яна напатыкала на сваім шляху, то, зусім аб'ектыуна сьцьвярджаючы, у гісторыі беларускага эміграцыйнага руху дзейнасьць нашае эміграцыі у Нямеччыне напэуна займе не апошняе месца.

**Алесь Крыга**

# Расейскія эмігранты актывізуюцца

Пасьля таго, калі разваліласся ведамая Фюсэнская канфэрэнцыя чатырох расейскіх палітычных арганізацыяу галоуна із за разыходжаньняу у справе нацыянальнага пытаньня, расейскія эмігранты ня спынілі сваей працы над стварэньнем агульнапалітычнага расейскага цэнтру і арганізацыі, што мела-б выступаць ад імя й паняволеных бальшавізмам нерасейскіх народау. Для заканчэньня гэтае акцыі спэцыяльна нядауна прыехау із ЗША у Нямеччыну А. Керэнскі у таварыстве іншых расейскіх эміграцыйных палітыкау, як В. Зензінау, Б. Нікалаеускі, праф. Курганау і другія. 17 жніленя сёлета адбылася у Мюнхэне канфэрэнцыя пяці расейскіх палітычных арганізацыяу з удзелам Керэнскага: Лігі Змаганьня за Народную Свабоду, Нацыянальна-Працоунага Саюзу (салідарыстыя), Саюзу Змаганьня за Свабоду Расеі, Расейскага Народнага Руху і Саюзу Змаганьня за Вызваленьне Народау Расеі (СБОНР). Вось-жа цяпер усе гэтыя арганізацыі — відаць пад узьдзеяньнем пэрспэктывы атрымліваньня грашовых фондау, што маюць паходзіць з амэрыканскіх крыніцау — дагаварыліся, і агульна-палітычны цэнтр, на канфэрэнцыі у Штутгарце 20 жніленя, без манархістых, быу створаны.

Але на гэтым не канец. Даведваемся, што створаны у Штутгарце г. зв. «Савет Вызваленьня Народау Расеі» прэтэндуе выступаць ня толькі ад імя расейцау, але і усіх нерасейскіх народау, паняволеных бальшавізмам.

Як падае «Нью Ерк Таймс» за 12. 8. 1951 г., «новы антысавецкі цэнтр будзе мець фінансавае падтрыманьне фонду «Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня Народау Расеі», прыватнай амэрыканскай арганізацыі, узначаленай Лаёнсам».

Нашае становішча да новаутворанага «Савету Вызваленьня Народау Расеі» мы займем у вадным з наступных нумароу «Бацькаушчыны». Тут хочам толькі адцеміць, што новая расейская арганізацыя, узурпуючая сабе права выступаць і ад нерасейскіх народау, ёсьць дакладнай копіяй уласаускага Камітэту Вызваленьня Народау Расеі (КОНР), створанага пры актыуным падтрыманьні нямецкага нацыстаускага ураду у Празе 14 лістапада 1944 г. Ня углыбляючыся навет у палітычныя праграмы гэтых арганізацыяу, згары можна сьцьвердзіць іхны выразна імпэрыялістычны характар. Аб гэтым ужо гавораць самыя іхныя назовы, дзе усе нерасейскія народы СССР падводзяцца пад супольны назоунік — «народы Расеі». Кажнаму граматнаму чалавеку ведама, што у СССР няма ніякіх народауРасеі. а ёсьць толькі расейскі народ, які жыве на расейскай этнаграфічнай тэрыторыі, і многія нерасейскія народы, сілаю заграбленыя царскім, а потым бальшавіцкім імпэрыялізмам, якія таксама жывуць на сваіх собскіх этнаграфічных тэрыторыях.

Ня менш вымоуным ёсьць і той факт, што расейскія эмігранты дагэтуль ніяк не маглі ці не хацелі знайсьці больш менш адпаведнага лідэра, які-б узначаліу іхны імпэрыялістычны рух. Усе яны былі у тэй або іншай форме калябарантамі з бальшавізмам. Гэтак Уласау, блізкі й адданы Сталінскі супрацоунік у нядауным мінулым, раптам стауся антысталінцам толькі тады, калі папау у нямецкі палон і калі, ратуючы сваю скуру, згадзіуся узначаліць антыбальшавіцкі рух. Ізноу-жа Керэнскі, які патрануе сяньняшняму задзіночаньню расейскае эміграцыі, у мінулым, як прэм'ер часовага расейскага ураду у 1917 г., выдатна спрычыніуся да захопу улады бальшавікамі. Ен-жа яшчэ сяньня, аблудна й цынічна заяуляючы аб правох нерасейскіх народау на іхную дзяржауную незалежнасьць, што маюць быць прызнаныя у будучыні на аснове усенароднага плебісцыту, меу адвагу цьвердзіць, што лепей адзіная й непадзельная Расея із Сталінам на чале, чымсьці Расея дэмакратычная, без народау, ею паняволеных.

З такімі правадырамі далёка не заедзеш!



насьць» Сталіна у галіне языкаведы, зазначаючы пры гэтым, што гэтая галіна навукі узыйшла цяпер на новы, адзіна правільны шлях. А уся савецкая прэса прысьвяціла гэтай падзеі перадавыя артыкулы.

Увесь гэты шум над артыкулам Сталіна аб марксызьме й языкаведзе зьяуляецца ня чым іншым, як грознай азнакай таго, што зрэалізаваньню пастулятау Сталіна у галіне мовы будзе прысьвечаная цяпер асаблівая увага.

Як гэтыя пастуляты рэалізуюцца на практыцы, аб гэтым сьветчаць усе факты й прыклады, прыведзеныя ужо у гэтым артыкуле.

Што сяньня дырэктывы Сталіна у галіне мовы зьяуляюцца пасьпешна праводжанымі у жыцьцё, можам бачыць із савецкай прэсы. У ей сяньня аж роіцца ад розных «навуковых» і публіцыстычных артыкулау, у якіх кладзецца асаблівы націск на русыфікацыю мовау нерасейскіх народау незалежна ад таго, ці гэта будуць народы яшчэ мала разьвітыя ці высака культурныя. Гэтак у «Литературной Газете» за 28 красавіка 1951 г. адведзены вялізарны аддзел «Расейская мова у нацыянальных школах» пад агульным лёзунгам: «Расейская мова, мова вялікага расейскага народу, стварыушага самую перадавую у сьвеце сацыялістычную культуру, мова Леніна й Сталіна, зьяуляецца дастоінствам і духовым аружжам кажнага савецкага чалавека, якой-бы нацыянальнасьці ён ня быу». У гэтым аддзеле зьмешчана рад артыкулау языкаведау некаторых нерасейскіх народау аб ролі й заданьнях расейскае мовы у разьвіцьці мовау іншых народау. Прыкладам якут Мікалай Дамажакау наступнымі словамі захопліваецца расейскай мовай, як асновай для далейшага разьвіцьця мовы сваей собскай: «Мову Леніна, Сталіна, Белінскага, Чарнышэускага, Пушкіна, Талстога, Гогаля, Тургенева, Горкага, Маякоускага мы лічым магутным аружжам, безь якога немагчымае пасьпяховае стварэньне какаскай культуры — нацыянальнай па форме, сацыялістычнай па зьместу». Там-жа у іншым артыкуле латыш Андрэй Упіт наступнымі словамі абураецца, што латыская моладзь ня ведае расейскае мовы: «На многіх зборках старыя кадравыя работнікі дасканала разумелі тав. Чуткіх (аднага расейскага ляурэата Сталінскай прэміі, што рабіу даклады для латышоу — Ст. Ст.), а некаторая частка моладзі, сярод якой было нямала камсамольцау, скончыушых нядауна ФЗО і рамесьніцкія школы, прасіла каб ім пераводзілі мову слаунага расейскага работніка. Сумна бачыць гэта, таварышы! Не павінна быць сяньня аніводнага чалавека ня толькі у Латыскай ССР, але і у іншых братніх рэспубліках нашае краіны, які ня знау-бы расейскае мовы, не вывучау-бы расейскае мовы».

Як сяньня прывіваецца расейшчына нерасейскім мовам можам бачыць із артыкулу Леаніда Чадамба з таго-ж нумару «Литературной Газеты». Гаворачы аб мове тувінскага народу, якая бліскуча быццам разьвіваецца на аснове мовы расейскай, ён піша« «Няграматны у нядауным мінулым тувінец стауся цяпер будауніком камуністычнага грамадзтва. Ен мае усе умовы для культурнага шчасьлівага жыцьця, ён бесьперапынна расшырае свой палітычны кругазор. Гэта зрадзіла неабходнасьць у новых словах і выражэньнях. Расейскія словы: «савет», «бальшавік», «партыя», «калгасьнік», «хлеб» (бедныя тувінцы, відаць да бальшавікоу яны ня толькі ня ведалі, што такое хлеб, але й ня мелі слова для яго названьня — Ст. Ст.), «трактар», «самалёт», «працадзень», «фабрыка», «школа», «сад», сталі у нас словамі роднымі, тувінскімі».

Аб ролі й заданьнях расейскае мовы сярод мовау іншых народау гаворыць акадэмік В. Вінаградау у вартыкуле «Савецкая языкаведа на новым шляху» («Правда» за 20. 6. 51) гэтак: «Мова вялікай расейскай нацыі — магутны сродак паразумленьня усіх народау нашай радзімы. На расейскай мове думаюць і гавораць, як на роднай, мільёны людзей розных нацыянальнасьцяу. Вялікая расейская мова сталася нявычарпальнай крыніцай узбагачэньня мовау усіх народау Савецкага Саюзу».

Як выглядае на практыцы гэтае «узбагачэньне» нерасейскіх мовау, чытаем у тым-жа нумары «Правды»: «На XX Тбіліскай гарадзкой партыйнай канфэрэнцыі сакратар ЦК КП(б) Грузіі тав. Чарквіані, асноуваючыся на працах тав. Сталіна аб языкаведзе, падняу пытаньне аб сучаснай грузінскай літаратурнай мове. Ен гаварыу аб неабходнасьці адгарадзіць сучасную грузінскую мову ад праніканьня засьмечваючых яе архаізмау, неабаснаваных нэалягізмау і штучных наватворау».

Пасьля абвешчаньня выжэй успомненага артыкулу Сталіна стала агульна ясным, што мэтай Саветау ёсьць ня толькі русыфікацыя мовау нерасейскіх народау, але за ейным пасярэдніцтвам поунае іхнае зьнішчэньне й замена іх адзінай мовай расейскай. У працэсе агульнай русыфікацыі, якая усільваецца з кажным годам, асабліва, а навет перадавое займае месца вынішчэньне мовау нерасейскіх народау, каб такім шляхам зьнішчыць і гэтыя народы, як апрычоныя нацыі. Трэба сьмела глянуць праудзе у вочы й сказаць адкрыта, што паколькі абнаглелы паход расейска-бальшавіцкага шавінізму супраць мовау ёсьць небясьпечным для народау навет неславянскіх, мовы якіх належаць да зусім іншых моуных групау, патолькі зьяуляецца ён жахліва грозным для славянскіх народау, г. зн. беларускага й украінскага.

Усё вышэй сказанае павінна прымусіць нас глыбака задумацца над тэй вялізарнай небясьпекай, якая загражае сяньня беларускаму народу. Мы павінны знайсьці магчымыя для нас сродкі абароны перад злачыннай Сталінскай палітыкай, ськіраванай на поунае зьнішчэньне беларускае мовы і замену яе расейскай, каб потым растапіць у «вадзіным расейскім моры» і сам беларускі народ.

Беларускі народ на бацькаушчыне, які знаходзіцца пад крывавым тэрорам акупанта, мае абмежаваныя магчымасьці бараніць сваей роднай мовы перад ейным вынішчэньнем. Затое поуныя магчымасьці рабіць гэта маем мы, беларускія эмігранты. У вадказ на Сталінскі зьдзек над нашай мовай мы павінны з асаблівай настойлівасьцю рупіцца пра ейную крыштальную чысьціню і бараніцца перад засьмечваньнем яе чужымі уплывамі, асабліва небясьпечнымі у умовах эміграцыі. Наш найвялікшы нацыянальны скарб — родную мову мы павінны старанна перахаваць на выгнаньні й не дазволіць ей заразіцца чужымі ей уплывамі, каб потым прынесьці з сабой назад у нашую вызваленую Бацькаушчыну. Дык памятайма вешчыя словы бацькі нашага нацыянальнага адраджэньня Францішка Багушэвіча: **«Беларусы, не пакідайце мовы Вашай беларускай, каб ня умерлі!»**

# Завастрэньне на Далекім і Блізкім Усходзе

(Заканчэньне)

Карэя ня ёсьць толькі пралёгам да трэйцяй сусьветнай вайны, але першай ейнай фазай.

### 2. САРВАНЬНЕ ПЕРАГАВОРАУ У ТЭГЕРАНЕ

Адначасна із сарваньнем перагаворау у справе перамір'я у Карэі дайшло да вялікага завастрэньня сытуацыі й на Блізкім Усходзе — у Іране. Бо у той-жа самы дзень, г. зн. 22 жнівеня, былі сарваныя перагаворы між ангельскім і пэрскім урадамі у справе іранскае нафты.

Ангельска-іранскі нафтовы канфлікт узьнікнуу у сувязі з праведзенай 20 сакавіка сёлета нацыяналізацыяй іранскага нафтовага промыслу й вялізарных нафтовых багацьцяу гэтага краю, якія былі да гэтага часу эксплятаваныя Ангельшчынай цераз Англа-Іранскае Нафтовае Таварыства. Нацыяналізацыя, як і выплываючыя зь яе далейшыя пастановы, былі праведзеныя іранскім урадам галоуна пад націскам публічнае апініі іранскага народу, які, кіруючыся нацыянальнымі матывамі, імкнецца поунасьцю унезалежніцца ад умешваньня у нутраныя справы Ірану чужых гаспадарствау.

Калі спробы палагоджаньня канфлікту, ведзеныя Англа-Іранскім Нафтовым Таварыствам, якім кіруюць ангельцы, з іранскім урадам ня далі ніякіх вынікау, у Тэгеран выляцеу спэцыяльны амбасадар прэзыдэнта Трумана Эвэрэль Гарыман, які, пры помачы аутарытэту ЗША, намагауся давесьці да зьліквідаваньня непаразумленьня у духу брытанскіх інтарэсау. Гарыману на столькі удалося залагодзіць сытуацыю, што Ангельшчына магла выслаць у Тэгеран урадавую дэлегацыю на чале зь лёрдамахароньнікам пячаці Стоксам 4 жнівеня сёлета дзеля вядзеньня далейшых перагаворау. У працэсе гэтых перагаворау Стокс падау 13 жнівеня іранскаму ураду свой праект, зложаны з васьмі пунктау. Важнейшыя дамаганьні гэтага праекту наступныя: Вялікабрытанія вызнае нацыяналізацыю іранскае нафты з тым, што будзе створанае брытанскае таварыства дзеля прадажы нафты, якое будзе мець права закупу іранскага нафтовага сыр'я і іншых прадуктау на працягу 25 год. Гэтае таварыства будзе мець пяршынство закупу перад рознымі іншымі. Яно паклікае тэхнічнае кіраунiцтва для прадукцыі нафты, якое будзе падпарадкаванае нацыянальнаму іранскаму нафтоваму таварыству. Гэтае таварыства для прадажы нафты будзе купляць ад іранскага нафтовага таварыства нафту па такой цане, якая дасьць ей даход роуны з даходам іранскага нафтовага таварыства. 15 жнівеня іранскі урад адкінуу агельскія прапазыцыі, заяуляючы, што далейшыя перагаворы могуць прадаужацца толькі пасьля згоды брытанскае дэлегацыі на высьненьне трох наступных пунктау: 1. Іран згаджаецца прадаваць ангельскаму таварыству толькі такую колькасьць нафты, якая патрэбная для заспакаеньня патрэбау самой Вялікабрытаніі, пакідаючы сабе вольную руку у прадажы нафты іншым краінам, 2. палагоджаньне фінансавых забавязаньняу абодвых бакоу і 3. палагоджаньне умовау працы ангельскага тэхнічнага пэрсаналу у іранскай нафтавай прамысловасьці.

У цэлым радзе далейшых паседжаньняу, у якіх прыймау удзел і Гарыман, не удалося дасягнуць згоды. Тады прадстаунік Вялікабрытаніі зьняу свае прапановы з парадку дня, узалежніушы далейшае прадаужэньне перагаворау ад згоды іранскага ураду перадаць кіраунiцтва нафтовай прамысловасьці Ірану брытанскаму генэральнаму дырэктару. Не атрымаушы згоды й на гэты праект, Стокс 24 жнівеня пакінуу Тэгеран і адляцеу у Лёндан. Дзень пазьней пакінуу Тэгеран і Гарыман, радзячы іранскаму ураду усё-ж такі узнавіць перагаворы на базе ангельскіх прапановау. Адначасна адбываецца эвакуацыя ангельскага нафтовага тэхнічнага пэрсаналу зь Ірану.

Такім чынам англа-іранскія перагаворы у справе нафты былі сарваныя, хаця ня выключана яшчэ магчымасьць, што яны будуць узноуленыя. Прыбыушы з Тэгерану у Лёндан Стокс заявіу карэспандэнтам, што паводля ягонага перакананьня існуе магчымасьць узноуленьня перагаворау і давядзеньня іх да задавальняючага для абодвых бакоу канца. Гэтак сама прэм'ер міністрау Ірану Масадэк у пісьме да прэзыдэнта Трумана зацеміу, што перагаворы могуць быць узноуленыя, калі Вялікабрытанія прыйме іранскія прапановы.

Трэба зазначыць, што англа-іранскі спор за нафту мае вялізарнае значэньне ня толькі эканамічнае, але й ваеннае. Нафтовыя рафінэрыі у Абадане зьяуляюцца найвялікшымі у сьвеце, зь якіх ня толькі Ангельшчына, але за ейным пасярэдніцтвам і уся заходняя Эуропа чэрпае амаль увесь свой нафтовы запас. Таму эвэнтуальная страта для Захаду іранскіх нафтовых крыніцау вельмі адмоуна адбілася-б на ягонай абароназдольнасьці.

### 3. У СЬЛЕД ЗА ІРАНАМ І ЭГІПТ

Вялікабрытанія знаходзіцца сяньня пад прэсыяй вялізарных клопатау ня толькі у Іране, але так сама і у Эгіпце, дзе апошнім часам дайшло да паважнага завастрэньня узаемадачыненьняу між абодвымі краямі. Эгіпт дамагаецца вываду ангельскага вайсковага гарнізону із зоны Суэцкага каналу, завёу абмежаваны рух караблёу цераз Суэцкі канал і патрабуе прылучэньня да Эгіпту Судану, які знаходзіцца сяньня пад ангельска-эгіпскім пратэктаратам. Апрача усяго гэтага, эгіпскі прэм'ер і міністар замежных справау Магамэд Саля-Эдын-Бэй паведаміу аб адкліканьні брытанска-эгіпскага пакту аб дапамозе з 1936 г., заключанага тады на жаданьне Эгіпту дзеля ягонае бясьпечнасьці перад загражаючай фашыстоускай агрэсыяй. Беспасярэдняй прычынай гэтага адкліканьня мелася быць заява брытанскага міністра замежных справау Морысона з 30 ліпеня, у якой Морысон назвау заведзеныя Эгіптам абмежаваньні руху караблёу цераз Суэцкі канал «безадказнымі» і што дамаганьні эгіпскага ураду вываду ангельскіх войскау з зоны Суэцкага каналу «не знаходзяцца у ніякіх дачыненьнях да рэальных падзеяу сяньняшняга дня».

23 ліпеня было апублікаванае асьветчаньне эгіпскага ураду, у якім абвінавачваецца Вялікабрытанія, што яна заяуляе сваю гатовасьць бараніць сілаю свае міжнародныя забавязаньні на Блізкім Усходзе. Далей прыпамінаецца, што асьветчаньне Морысона з 30 ліпеня замкнула дзьверы для далейшых перагаворау у справе рэвізыі англа-эгіпскага пакту з 1936 г.

Англа-эгіпскае непаразумленьне яшчэ ня вылілася у такую форму, як англа-іранскі спор, аднак ёсьць падставы думаць, што яно можа завастрыцца у бліжэйшай будучыні й прынесьці для Вялікабрытаніі паважныя клопаты.

### 4. НА ПЯРЭДАДНІ ПАДПІСАНЬНЯ МІРНАГА ДАГАВОРУ ЗЬ ЯПОНІЯЙ

4 верасьня сёлета распачнецца у Сан-Францыско канфэрэнцыя у справе падпісаньня мірнага дагавору зь Японіяй. Да удзелу у канфэрэнцыі запрошана 53 гаспадарствы, зь якіх 47 асьветчылі, што яны возьмуць удзел у канфэрэнцыі. Індыя й Югаславія заявілі, што яны у канфэрэнцыі удзелу ня возьмуць. Праект мірнага дагавору зь Японіяй зьяуляецца далёкім ад рэванжу або помсты над гэтым краем, будучы апрацаваным у духу наданьня Японіі як найбольшых правоу і поунага вызнаньня ейнага сувэрэнітэту. Гэта сьцьвердзіу між іншым сам прем'ер міністрау Японіі Ешыда, які у пісьме да галоунакамандуючага ЗША на Далёкім Усходзе генэрала Рыджвэя выразіу падзяку амэрыканскаму народу за праект мірнага дагавору.

Справа мірнага дагавору зь Японіяй ужо мае за сабой цікавую гісторыю. Прыгатавауча працы над ім ужо трываюць цэлы год, якія можна назваць «11-цімесячнай мірнай канфэрэнцыяй», як сьцьвярджае урад ЗША у свaей ноце у гэтай справе да ураду СССР.

Год таму назад, калі ня было магчымасьці дасягнуць згоды й адзінства у справе мірнага дагавору зь Японіяй, было даручана рэспубліканскаму дарадніку міністра замежных справау ЗША Джону Фостэру Далесу правесьці пэртрактацыі з паасобнымі гаспадарствамі у справе умовау мірнага дагавору. У працэсе гэтых пэртрактацыяу і дыскусыяу і паустау праект мірнага дагавору, які потым быу ізноу прадстаулены зацікауленым гаспадарствам. Пасьля гэтага быу ён у сувязі з заувагамі і засьцярогамі паасобных гаспадарствау яшчэ раз зрэвідаваны. Савецкі Саюз адмовіуся тады узяць удзел у гэтай «Мірнай канфэрэнцыі», якая адбывалася не пры зялёным стале, але у форме перагаворау з паасобнымі удзельнікамі й пісьмовай вымены думак.

Таму было запраўднай сэнсацыяй нядаунае паведамленьне Савецкага Саюзу, што ён возьме удзел у канфэрэнцыі у Сан-Францыско. Некалькі дзён пазьней паведамілі аб сваім удзеле Польшча й Чэхаславаччына. Што Саветы маюць намер у Сан-Францыско праводзіць сваю дэструкцыйную кампанію, сьветчыць між іншым тое, што савецкая дэлегацыя мае прыбыць у складзе аж 30 асоб, як і тое, што, як усьцяж паутарае савецкае радыё й прэса, Савэты пададуць на канфэрэнцыі свой собскі праект мірнага дагавору зь Японіяй. Есьць пэуным, што Саветы будуць імкнуцца сарваць канфэрэнцыю, у найлепшым выпадку адлажыць падпісаньне мірнага дагавору на неазначаны тэрмін, пры гэтым будуць яны старацца выкарыстаць канфэрэнцыю, як трыбуну для сваей прапагандовай акцыі. У першую чаргу яны пастараюцца выкарыстаць становішча некаторых усходніх гаспадарствау, якія, будучы непасрэдна пацярпеушымі ад японскай інвазыі, будуць дамагацца церазьмерных адшкадаваньняу з боку Японіі.

Судзячы з усяго, заплянаваны Саветамі манэур гэтым разам ня удасца. Урад ЗША у сваей ноце ураду Савецкаму Саюзу ужо заявіу, што канфэрэнцыя ня будзе задзержывацца над умовамі мірнага дагавору, бо гэта было ужо зробленае на працягу апошніх адзінаццаці месяцау. На парадку дня стаіць справа толькі падпісаньня мірнага дагавору і што Саветы, калі яны хочаць унесьці свае прапановы, маглі гэта зрабіць раней. Гэтак сама прэзыдэнт Труман ужо неаднакратна заявіу, што мірны дагавор зь Японіяй будзе падпісаны, ня гледзячы на удзел у канфэрэнцыі Савецкага Саюзу.

* * *

Як бачым, у важнейшых міжнародных падзеях апошняга часу Эуропа адыйшла на задні плян. Галоуная увага свету зьвернутая цяпер на Далёкі й Блізкі Усход, дзе разыгрываюцца падзеі першараднае вагі, ад якіх можа залежыць далейшы лёс усяго сьвету. Усе азнакі паказваюць на тое, што міжнароднае напружаньне усьцяж будзе павялічацца, супярэчнасьці між Захадам і Усходам выказваюць тэндэнцыю далейшага завастрэньня. А таму генэральны зудар між дэмакратычным Захадам і камуністычным Усходам здаецца быць няухільным.

(—іч)

## АБН АДХІЛЯЕ СУПРАЦОУНІЦТВА З КЕРЭНСКІМ

Як падае амэрыканская газэта у нямецкай мове «Нойе Цайтунг», 23 жнівеня сёлета адбылася у Мюнхэне прэсавая канфэрэнцыя АБН, на якой Цэнтральны Камітэт АБН ад імя 22 задзіночаных у ім паняволеных бальшавізмам народау выказау сваё становішча у дачыненьні да створанага Керэнскім зь пяці расейскіх палітычных арганізацыяу г. зв. «Савету Вызваленьня Народау Расеі». Украінскі дэлегат у АБН рэд. Зэнон Пэлэнскі ад імя задзіночаных у АБН народау заявіу, што паняволеныя бальшавізмам нерасейскія народы ня бачаць ніякае магчымасьці супрацоуніцтва з г. зв. «Саветам Вызваленьня Народау Расеі», так як гэты Савет прэтэндуе пасьля зьнішчэньня бальшавізму заняць месца сяньняшніх валадароу Крамля. Керэнскі задзіночыу пяць расейскіх палітычных групау з мэтаю прадаужаньня расейскае імпэрыялістычнае палітыкі пры поуным запярэчаньні аснауных мэтау задзіночаных у АБН народау — стварэньня іхных незалежных гаспадарствау.

## АМЭРЫКАНСКАЯ ЗАМЕЖНАЯ ПОМАЧ АД ЗАКАНЧЭНЬНЯ ВАЙНЫ

Задзіночаныя Штаты Амэрыкі выдалі ад 1 ліпеня 1945 г. да 1 красавіка 1951 г. у рамах праграмы замежнае дапамогі роуна 31,4 мільярдау далярау. Найвялікшую помач атрымала Заходняя Эуропа, для якой прыпала 20,4 мільярдау далярау на гаспадарскія й 0,6 мільярдау на ваенныя мэты. Вялікае значэньне мела таксама дапамога для Далёкага Усходу, якая выражалася агульнай сумай 5,3 мільярдау далярау. Замежная помач для Усходняе Эуропы агранічвалася толькі да першых паваенных гадоу.

Таксама у новым 1951/52 бюджэтным годзе атрымае Заходняя Эуропа ад Задзіночаных Штатау роуна 7 мільярдау далярау замежнае помачы.

## ЦЭНТРАЛЬНАЯ РАДА НАЦЫЯНАЛЬНЫХ КАМІТЭТАУ

19 ліпеня сёлета адбылася у Мюнхэне пленарная зборка Нацыянальных Камітэтау іншанацыянальных Уцекінерау у Нямеччыне, на якой была заснаваная Цэнтральная Рада Нацыянальных Камітэтау Замежных Уцекінерау у Нямеччыне. Шляхам выбарау быу паклікаіны Выканаучы Камітэт Рады у наступным складзе: Еган Мадызэ (эстонец), Др. Густау Гэныэй (мадзяр), Зэнон Пэлэнскі (украінец), Станіслау Мікіцюк (паляк) і Радован Паповіч (югаслау).

У Цэнтральную Раду уваходзяць усе большыя згуртаваньні замежных уцекінерау, між імі й Беларускі Нацыянальны Камітэт у Нямеччыне, дзейнасьць якіх расьцягваецца на усю Нямеччыну і зь якімі дагэтуль супрацоунічала ІРО. Цэнтральная Рада будзе заступаць інтарэсы чужынецкіх уцекінерау перад нямецкімі уладамі й адпаведнымі інтэрнацыянальнымі арганізацыямі.

## Да Беларускага Грамадзянства на Чужыне

Ужо трыццаць чацьвёрты год беларускі народ вядзе гераічнае змаганьне з расейска-бальшавіцкім імпэрыялізмам. Гэтае змаганьне ня спыняецца; наадварот, яно больш вастрэе, бо вырашальны дзень недалёка.

Мы, беларусы на эміграцыі, уважаем сябе таксама за змагароу супраць расейскага бальшавізму, дарма, што сяньня ня можам дапамагчы нашаму паняволенаму народу із зброяй у руках.

Каб кроу беларускіх паустанцау ня была праліваная надарма, каб яна у будучыні нарадзіла плён у выглядзе Беларускай Незалежнай Дзяржавы, сьвет павінен ведаць, за што змагаюцца й чаго хочуць беларусы. А змагарная паустанская Беларусь сяньня ня мае вольнасьці слова. Але гэтую вольнасьць слова мае беларуская эміграцыя. Дзеля таго яна павінна быць вуснамі нямых, абаронцам пакрыуджаных, галасьнікам тых, што змагаюцца.

Паколькі справа прапаганды й друку сярод беларусау да гэтага часу была ненайгорш наладжаная, дык прапаганды навонкі аб Беларусі да гэтага часу амаль ня было. Захдні сьвет шукае аб нас матарыялау, пытаецца, хто мы такія й чаго мы хочам, за што мы змагаемся. Аб нас гавораць рэдка нашы прыяцелі, а найчасьцей нашы ворагі, якія заутра ізноу будуць старацца паняволіць нашу бацькаушчыну. Пара з гэтым скончыць. Ворагі нашы павінны перастаць гаварыць за нас і ад нас. Беларуская прабле́ма павінна нарэшце быць вынесеная на шырокую арэну, дамаганьні змагарнай Беларусі й яе голас павінны быць пачуты вольным сьветам у іх крыштальнай чысьціні.

Гэта можа зрабіць толькі сыстэматычная вонкавая прапаганда, гэта можам зрабіць мы — беларуская эміграцыя. І мы зрабіць гэта павінны.

Каб распачаць працу на шырокім полі вонкавай прапаганды аб Беларусі, група беларусау з Торонто, сабраушыся на паседжаньні 26 ліпеня, усебакова абмеркавала справу, пасьля чаго пастаноулена прыступіць да выдаваньня інфармацыйнага часапісу аб Беларусі на ангельскай мове. Часапіс меу-бы зьмяшчаць весткі аб жыцьці й змаганьні беларусау на паняволенай бацькаушчыне, насьвятляць нашую ідэалёгію, знаёміць чужынцау з нашымі асягненьнямі на полі культуры й гісторыі. Праектуецца выдаваць часапіс пад назовам „Голас Беларусі". Гэта добрая ініцыятыва можа быць праведзена у жыцьцё толькі пры поунай падтрымцы усей беларускай эміграцыі.

Канкрэтна, ініцыятыуны камітэт для выдаваньня інфармацыйнага часапісу аб Беларусі паангельску у складзе сп. сп.: К. Акула, В. Ш., М. Рачыцкі, В. Навіцкі і Я. Чорны, зьвяртаецца да беларускай эміграцыі з наступным:

1. Просіць усіх зацікауленых выказаць нам свае парады й пажаданьні адносна усіх пытаньняу, зьвязаных з часапісам.

2. Просіць беларускіх журналістых, палітычных і грамадзкіх дзеячоу прысылаць у ініцыятыуны камітэт матарыял: весткі з Беларусі, беларускае палітычнае змаганьне за незалежнасьць, гісторыя й культура. Просіцца, хто ведае мову, пісаць паангельску, хто ня ведае — пабеларуску. Зацікауленых просім навязаць лучнасьць з ініцыятыуным камітэтам для высьвятленьня усіх справау, зьвязаных з супрацоуніцтвам.

3. Просіць усіх беларусау, атрымліваючых весткі з бацькаушчыны, што могуць быць выкарыстаныя для прапаганды, перасылаць іх на адрыс камітэту.

4. Просіць усіх беларусак і беларусау пасьпяшыць з матарыяльнай дапамогай на выдавацкія мэты. Выданьне часапісу пацягне за сабой аграмадныя кошты і можа быць зьдзейсьнена толькі пры рэгулярнай фінансавай дапамозе з боку усіх беларусау.

5. Просіць перасылаць у рэдкалегію усякія чужыя часапісы й газэты, дзе пішацца аб Беларусі. Гэта паможа нам адлюстраваць адносіны чужынцау да нас.

6. Просіць перасылаць у рэдкалегію здымкі й малюнкі, што маюць прапагандную вартасьць, як напрыклад із збройнага змаганьня за незалежнасьць.

Ініцыятыуны камітэт, зьвяртаючыся з гэтым да беларускае эміграцыі, ясна здае сабе справу, што выданьне рэгулярнага інфармацыйнага часапісу паангельску будзе зьдзейсьнена толькі тады, калі будзе забясьпечана яму поуная падтрымка усяе беларускае эміграцыі.

Пастараймася-ж, каб голас змагарнай Беларусі быу пачуты!

**Ініцыятыуны Камітэт**

Увага! Усю карэспандэнцыю у сувязі з часапісам просіцца кіраваць на адрыс: **K. Akula, 270 Clinton Str. Toronto, Ont. — Canada.**

## НОВЫ АДРАС БЕЛАРУСКАГА НАЦЫЯНАЛЬНАГА КАМІТЭТУ (БНК)

**Гэтым падаецца да ведама, што новы адрас Беларускага Нацыянальнага Камітэту у Нямеччыне ёсьць наступны: Weißruthenisches Nationalkomitee, München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III.**

## БЕЛАРУСЫ У САВЕЦКІХ КАНЦЭНТРАЦЫЙНЫХ ЛЯГЕРАХ У НЯМЕЧЧЫНЕ

Польская газэта «Дзеньнік Чыкагоускі» за 14 сьнежаня 1950 г. падала наступную вестку:

«Уцекінеры з савецкага канцэнтрацыйнага лягеру Захсэнгаузен (савецкая зона Нямеччыны) падаюць навочныя паказаньні, што у Захсэнгаузэн і іншых савецкіх канцэнтрацыйных лягерах знаходзяцца ня толькі немцы, але таксама й грамадзяне Савецкага Саюзу й суседніх сатэлітных краінау. Між вязьнямі ёсьць вялікая колькасьць беларусау, як цывільных, гэтак і вайсковых. Вайсковыя складаюцца пераважна з былых ваеннапалонных, што былі інтэрнаваныя у Нямеччыне. Цывільныя вязьні — гэта былыя прымусовыя работнікі у Нямеччыне падчас вайны. Многа зь іх адмовілася вярнуцца у СССР. Былі яны рознымі спосабамі вылауленыя, найчасьцей подступам, і умешчаныя у канцэнтрацыйных лягерах савецкіх».

**Беларусы, не забывайце Вашае Бацькаушчыны!**

## «Бацькаушчына» летніцкай поштай

**Чытачы «Бацькаушчыны» у заакіянскіх краінах (ЗША, Канада, Аргентына, Аустралія, Новая Зэляндыя, Вэнэцуэла й інш), да якіх прыходзіць газэта зь месячным або й большым спазьненьнем, могуць яе атрымліваць хутка лётніцкай поштай, аплачваючы 30 амэрыканскіх цэнтау за адзін эгзэмпляр, а у краінах паза ЗША — іхную раунавартасьць у мясцовай валюце на адрас нашых Прадстауніцтвау у дадзеных краінах. Газэта ім будзе высылацца лётніцкай поштай толькі тады, калі Адміністрацыя атрымае ад нашых Прадстауніцтвау паведамленьне, што дадзеныя падпішчыкі пераслалі ім вызначаную аплату.**

**Дык карыстайце з нагоды хуткага атрымліваньня «Бацькаушчыны»!**

## НОВЫ АДРАС РЭДАКЦЫІ Й АДМІНІСТРАЦЫІ «БАЦЬКАУШЧЫНЫ»

**Гэтым падаецца да ведама, што ад гэтага часу адрас Рэдакцыі і Адміністрацыі «Бацькаушчыны» ёсьць наступны: München 22, Herzog-Rudolf-Str. 49/III**

**На гэты адрас просім кіраваць усякую карэспандэнцыю і грошы для «Бацькаушчыны».**

## ПРАДСТАУНІЦТВЫ «БАЦЬКАУШЧЫНЫ» ПАЗА НЯМЕЧЧЫНАЙ:

1. **У Бэльгіі:** Mr. Karas Leonid, 8, Place Hoover, Louvain, Belgique.
2. **У Ангельшчыне:** Mr. Lasuk Aleksander, 174, Finborough Road, London, S. W. 10, England.
3. **У Францыі:** Mr. Symaniec Vladimir, 15, rue du Ltn. Boncour, Neuilly s/Seine, France.
4. **У ЗША:** Mr. B. Danilowich, 222 Suydom Street, New Brunswick, USA.
5. **У Канадзе:** Mr. Joseph Corny, 270 Clinton Str. Toronto, Ont., Canada.
6. **У Аргентыне:** Asociacion Bielorusa en la Argentina calle Coronel Sayos 2981, 4 de Junio prov. Buenos Aires. Argentina.
7. **У Аустраліі:** Mr. Jackievic Donat, 60 Fisher Street, East Brisbane, Q-ld, Australia.
8. **У Вэнэцуэлі:** Dudzickj Vladimir, Crucesita a San Miquel 74, Caracas, Venezuela.
9. **У Новай Зэляндыі:** Mr. Karanieuskj Marjan, Burns Izonse, Mosgiel, New Zeeland.

**Непастрэдна з гэтых прадстауніцтвау просім суродзічау выпісваць «Бацькаушчыну» і там-жа разьлічвацца за газэту.**

## ЦАНА «БАЦЬКАУШЧЫНЫ ПАЗА НЯМЕЧЧЫНАЙ

| | |
|---|---|
| 1. ЗША | 15 цэнтау |
| 2. Канада | 15 цэнтау |
| 3. Вялікабрытанія | 1 шылінг |
| 4. Францыя | 40 франкау |
| 5. Аустралія | 1 шылінг |
| 6. Аргентына | 2 пэзо. |
| 7. Бэльгія | 5 франкау |

Ува усіх іншых краінах раунавартасьць 15 цэнтау ЗША за 1 эгзэмпляр.

**З прычыны дэвізовых абмежаваньнау у Нямеччыне грошы за «Бацькаушчыну» з усіх краінау паза Нямеччынай просім перасылаць на наступны адрас:**

**Mr. Jan Zaprudnik, 8, Place Hoover, Louvain, Belgique.**